## СТАЛЬ І ШЛАК

Сталь выплаўлялі у мартэне:
Загружаны шыхта і флюс, і металічны лом,
Гудуць фарсункі д'ябальскім агнём,
Аж цэх дрыжыць, бы ад землетрасення...
І вось праз нейкі час
Кіпіць, клякоча Сталь, віруе...
Ды раптам чуе:
— Як там вас?
Навошта столькі буркату і грому...
Ці ж ты са мною не знаёма?
Хай я не Сталь, а наздраваты Шлак,
Але я над табой узняўся!
І я важней цябе! Так-так!
Агню я не паддаўся,
Выходзіць — я цвярдзей!
Мне будзе гонар і пашана
Ад людзей!
— Заганарыўся, Шлак, ты рана,—
Заўважыла спакойна Сталь,—
З мяне адліта будзе не адна дэталь,
Нідзе не падвяду я, не спасую!
А ад цябе карысці — брак...

Той-сёй хай на мяне крыўдуе:
Ёсць людзі — сталь. Ёсць — легкаважны шлак.

# АДНАГАЛОСНА

У прэзідыум спартыўнага сазета
Звяры лясныя выбіралі старшыню...
Ліса, бывалая кабета,
Ускочыўшы на адпаведную, як кажуць, вышыню,
Прагаўкала лісліва:
— Я прапаную Воўка! Хто галасуе «за»? —
І лапку ўскінула імкліва.
Ніводзін звер яшчэ —
ні Дзік, ні Заяц, ні Каза —
З сваімі думкамі належна не сабраўся,
А Ліска зноў: — Хто супраць? Устрымаўся?
Няма!
Праходзіць Воўк аднагалосна!

Гаворыць байка за сябе сама,
І аналогій тут прамых або ўскосных
Не раю я шукаць.
Лепш дэмакратыю не парушаць!

# БІТЫ ПЕВЕНЬ

Якісьці Певень-басурман
Ускочыў з лёту на паркан,
Залопаў крыллямі, загарлапаніў што ёсць духу:
— Ку-ка-рэ-ку-у!
Суседа задзяўбу! Суседа праглыну, як муху!
Сатру яго ў муку!
Не астанецца ад яго і следу...
— Ну-ну! — паддаў імпэту
Ды падбухторыў крыкуна Індык,—
Чуб надзяры суседу,
Бо завіхацца ён ля курак тваіх звык...
Давай-давай! Смялей, мой дружа!
А перамога будзе верная твая:
Сусед слабы і трус, а ты аднажны, дужы!
Прытым, з табой маральна я...
...Адчуўшы з боку яўную падтрымку,
Той Певень не вагаўся ні хвілінкі —
Рвануўся на суседні двор
І бойку завязаў знянацку...
Але... там жыў таксама Пеўнік забіяцкі —
«Агрэсару» ён даў такі адпор,
Што той застаўся без хваста, без шпор,
Да курасадкі ледзь даклыпаў...
Дзе ж быў Індык?
Вачыма толькі лыпаў...

Задзіра узнімае крык,
У бойку лезе, на памагатых спадзяецца...
А сам без носа застаецца.

## СПРЫТНАЯ КАЗА

За Козачкаю маладою
Ўлягалі Козлікі адразу двое.
Адзін — што трэба і другі — не зломак!
А Козачка — то ласціцца з адным,
То падміргне загадкава другому...
Так закруціла голавы, дурным,
Што з-за яе — ў вір сігануць гатовы!
Згубілі апетыт, пазбавіліся сну...
І між сабой вядуць
не на жыццё — на смерць вайну!
Трашчаць і капыты, і скабы, і галовы...
А Козачка рагоча, жару паддае,
Да белага калення распякае:
— Ну-ну, джэнтльмены, рыцары мае,
Хто з вас мацней, хто больш мяне кахае?!
(Сама, між іншым,
на Казла Сівога паглядае,
Ды ўсё: «Хі-хі!», «Ха-ха!»)
Дзядуля зразумеў адразу пазыўныя,
І, ўбок адкінуўшы умоўнасці і сантыменты тыя,
Ашчаднай кніжкай памахаў.
І вынік быў магічны:
Пакуль там Козлікі вялі той бой
За даму сэрца гераічна,
Сівы Казёл з Казуляй маладой
Аформілі у загсе шлюб.

З-за рэўнасці да кручанай дзяўчыны —
Хлапцы дзяруць адзін другому чуб!

Ну, а яна з іх строіць кпіны,
І да кахання у яе падход адзіны:
Хоць стараваты —
Ды багаты!

# БАРАН І АСЛІЦА

Баран надумаў музыцы вучыцца...
Прыйшоў у клас,
А там якраз
Урок вядзе Асліца.
Убачыўшы за партай навічка,
Яна сказала: «А ну, вазьмі гук «А-а-а».
Баран пачухаў
Капытом за вухам
І ірвануў адразу: «Бе-е-е-е!»
— Паслухай,—
Падскочыла узрушана Асліца,—
Ды у цябе —
Тут нельга памыліцца —
Не галасіна, а арган!
З Аслом зраўняцца можаш ты, Баран!
Такі ты здатны!
Бач, заўтрашні ўжо ведаеш урок?!
Парадаваў мяне, мой ґалубок!
Я стаўлю за адказ табе «вы-дат-на!»
І заўтра не прыходзь у клас.

Чаму Баран той можа навучыцца,
Калі вядзе урок Асліца?
Ну толькі, пэўна, бавіць час...

# ПАТОК І ПЛАЦІНА

З высокіх ледніковых гор,
Са стромкіх скал ў зялёную даліну
Імчаў Паток шалёны, як віхор!
І на шляху сваім крышыў і дрэвы і хаціны...
Так кожнаю вясной
Ён учыняў бязлітасны разбой.
І раптам узнялася на яго шляху Плаціна!
Ад лютасці зароў Паток,
Як дзікая звярына...
Зрабіў адзін, другі скачок,
Запеніўся у шлюзах, кінуўся ў турбіну
І даў, як кажуць, прамысловы ток.

І хуліган шуміць і кідаецца біцца,
Здаецца, на яго управы не знайсці...
Але... як возьме за каўнер яго міліцыя,—
Глядзіш — і чалавекам стаў ён у жыцці.

# «ВОГНЕТУШЫЦЕЛЬ»

У філармоніі праходзіў справаздачны сход...
Дакладчык выступіў і садакладчык.
Затым ў палеміцы гарачай
Прыняў удзел народ:
Вялі гаворку там наконт жылля, рэклам,
Рэпертуару, распарадку дня, праграм,
І прынялі аднагалосна пастанову.
Ды тут пажарнік
Узяў слова:
— Та-а-ва-р-ры-шы! Хоць невялікі я начальнік,
Але катэгарычна я хачу сказаць
Аб тым, што ў сэрцы нагарэла —
Далей так нельга працаваць!
Тут шум і гам дзянёчак цэлы...
Не філармонія, здаецца, а вар'яцкі дом!
Ну, ўвечары канцэрт. Я разумею.
А днём?
Навошта кожны з вас шалее?
Аратары тут заклікалі,
Каб з аганьком, з іскрой мы працавалі.
Аб-сурд! Кажу я вам у твар.
Інструкцыі пажарнай парушэнне!
Запомніце: дзе аганёк — там і пажар!
Забараняю я гарэць на сцэне!
Не за агонь я — за ваду!
Ага. Ну а цяпераказ на вахту я пайду.

Вы толькі спрэчкі разгарніце —
Адразу знойдзецца «вогнетушыцель».

## НАП І АРАП

Адзін дзялец, спрытнюга кемны,
А да таго ж нахрапісты Арап
Прапанаваў укараніць ў калгасе НАП *...
Не без выгоды для сябе ўзаемнай.
У хату ён да старшыні зайшоў
І заспяваў так голасам прыемным:
— Удой залежыць ад кармоў,
Вы з гэтай ісцінай не будзеце спрачацца,
Калі ж па-навуковаму наладзіць працу
І вынаходніцтва ўнядрыць,
Тады спраўляйся толькі ты рагуль даіць...
— А ты канкрэтней. Ты бліжэй да справы,—
Уставіў слова старшыня.
— Ды вось што прапаную я,—
Заёрзаў чалавек рухавы,—
Узброім акулярамі зялёнымі карову ці цялушку.
— Навошта? — запытаеце». Ахвотна растлумачу:
Накідаем саломы у кармушку,
— Ну, а яны сянцо там ўбачаць.
Цяпер скумекаў, кіраўнік?
— Выходзіць, што адразу
Мы вырашаем кармавую базу?
— А як жа! Навуковы тут разлік,
Вучэнне Паўлава, рэфлекс умоўны...
А зараз, старшыня шаноўны,
Не грэх бы й замарыць нам чарвячка,
Налі пакуль што малачка!

---

* НАП — Навуковая арганізацыя працы.

— Ах, малачка? —
Спытаўся старшыня калгаса іранічна,
І, зачарпнуўшы шкляначку вады
Крынічнай,
Сказаў: — Пі, чалавеча малады.
— Ты што? З мяне жартуеш?!
Ды гэта ж $H_2O$, звычайная вада...
І ты заўсёды так частуеш?
— Вада? Ну не кажы,— ўсміхнуўся гаспадар,—
Вось акулярамі цябе малочнымі узброю
І на стале убачыш шклянку сырадою...
— Чаго?! — угневаўся дзялец,—
Ці ж я карова альбо бык рагаты?!
Я — спец!
І куляй вылецеў ён з хаты...

І ў сельскай гаспадарцы
Патрэбна, безумоўна, НАП,
Але калі шаман, спрытнюга і арап
Пачне з «пражэктамі» пустымі набівацца,
Наводзіць на навуку цень,—
Не след на вуду паддавацца,
Дзяльца ганіце у каршэнь!

## ПАДМАЦАВАННЕ

На лесасплаве працавалі
Два Сланы.
Бярвенні тралявалі
Да ракі яны.
Тэндэм быў зладжаны у іх на дзіва,
Перавыконвалі заўсёды план
І прагрэсіўку атрымоўвалі на піва.
Ды неяк выклікаў іх да сябе Баран:
— Шаноўныя, цаню я вашу сілу і старанне,
На вас няма ні скарг, ні нараканняў,
Але, што ні кажы, гады!
Не юнакі вы, а, бадай, дзяды
І вам не лішнім будзе і падмацаванне.
— Ну што ж, за клопат ратуйбо,—
прамовілі Сланы,—
Хоць мы спраўляліся адны,
За дапамогу мы гарой.
Але скажыце, будзьце так ласкавы,
Хто той асілак бравы,
Волат дужы той,
Што на буксір сланоў узяць бярэцца нават?
Мо Зубр, мо Лось, а мо Мядзведзь палярны?
— Ды не, сябры, чаго гадаць?
Да вас я Зайца вырашыў накіраваць! —
Баран прабляяў уладарна.
— Каго? Зайчо? Ды кіньце жартаваць!
Ну памяркуйце самі,
Ён толькі блытацца ў нас будзе пад нагамі...
Марока з ім адна...
Бо ён не толькі бервяна —

Сука узняць не зможа,
А за яго цягні, выконвай план?
— Не зможа,— спакойна адпарыраваў Баран.—
Затое бегае! Дай божа!
І вось ад вашае брыгады
Мы пасылаем Зайца на спартакіяду...
...З тае пары
Той Заяц зухаваты
Сланом залічаны ў бары,
Слановай забяспечаны зарплатай
І, больш таго, слановаю кватэрай...

Ды што звяры?!
Вось на заводзе іншым — пагартай паперы —
Там на пасаду інжынера
Залічаны то футбаліст,
То хакеіст...
Кідаюць грошыкі пад хвост сабаку,
Ну а рэкордаў, чэмпіёнаў — кот наплакаў...

## «ВАЛ»

Завод па вырабу цвікоў
Ніколі не выконваў плана...
І вось, па указанню адпаведных устаноў,
Дырэктара знялі за «стыль заганны»
І новага прызначылі: «Глядзі!
Табе у рукі карты,
Цвік нам давай эпохі нашай варты!
Не падвядзі!»
І той за справу ўзяўся крута:
Па-першае, сабраў «камандны ўвесь састаў»
І «інструктаж» ім адпаведны даў,
Затым з эканамістам «рахаваўся» трое сутак,
З рабочымі размову меў —
Паабяцаў ім горы залатыя...
І што вы скажаце — заводзік загрымеў!
Выконваць і перавыконваць стаў ён планы тыя...
Пайшла прадукцыя ва ўсе канцы.
— Вось малайцы дык малайцы! —
Начальства зверху рукі пацірала,—
Працуюць без раскачкі, без аўралаў,
Ну, а галоўнае — даюць штомесяц «вал»!
Ды хутка ўсе шавецкія арцелі,
Будрэмканторы ўзнялі гвалт;
У міністэрства скаргі паляцелі:
— Патрэбен цвік нам рознае велічыні,
А нам даюць метровай даўжыні...
Ці ж гэта жарты ці звычайная афёра?
І «спрытнага» дырэктара прапёрлі скора.
...Заўважым мы,
Зух «вал» выконваў, пераводзячы на тоны,

І быў «асартымент» адзін ягоны —
Цвікі-ламы!

Аматар траскатні з трыбуны узнімае «шквал»
Пра статыстычны «вал»,
Як аб прагрэсе, дасягненні веку...
А што дае канкрэтнаму ён чалавеку,
Як паляпшае дабрабыт ён мас —
Аратар «пас».

## ГАЛАВЕШКА І ДАЎБЕШКА

Трухлявая, сырая Галавешка,
Якая не давала ўжо ні жару, ні святла,
А толькі чадзіць і сычэць магла,
Курылася на прыпечку няспешкам
І ганарыста разважала:
— Як факел, я гару! Як сонейка, свячу!
Такіх на свеце галавешак мала!
І сваім чадам атмасферу ўсё болей атручала...
— Ну, зараз я цябе, халера, правучу! —
Прамовіў Гаспадар,—
І дзякуй богу,
Што не скацілася яшчэ ты на падлогу,
А то ушчаўся б тут пажар...
І, ухапіўшы Галавешку голаю рукою,
Укінуў спрытненька ў вядро з вадою.
— О-ёй! — тут Галавешка лямант узняла,—
Гвалт робяць нада мною!
Я светачам была!
Прыносіла карысць народу!
Яму служыла ўсёй душой!
А не далі мне разгарнення, ходу...
Якая ж тут свабода,
Калі агонь мой залілі вадой?..

Даўбешка часам пост займае
І марыць, што яна — свяціла, карыфей!
Як галавешка тая, вочы чадам засціле...
Ды цяжка ачмурыць людзей —
Іх балбатнёй пустой ніхто не ашукае!

# ДЖОН БУЛЬ І ДЗЯДЗЬКА САМ

Па НАТО два партнёры —
Джон Буль і дзядзька Сам —
Ішлі і узнімалі тарарам:
— Я за цябе звярну рукамі горы!
— А я у пекла, у агонь пайду!
— А я, клянуся,
Калі ты трапіш у бяду —
На дно марское апушчуся!
Так, прысягаючы, ішлі
Ды на дрыгву ўзбрылі.
Адзін з іх і загруз
У багнішчы па пояс...
І што такое? —
Распаўся непарушаны іх «саюз».
— Тану! — крычыць Джон Буль.
— Ратуй ад згубы!
Руку падай хутчэй,
Брат любы,
А то не ўбачыць мне ні жонкі, ні дзяцей...
— Чаго ты, як свіння, вішчыш?
Куды глядзеў раней ты, недалуга...
Ці павылазілі твае на старасць зіркачы?
Ці петрыш туга? —
Зарагатаў над ім нядаўні кампаньён.—
А хочаш жыць — гані мільён,
І я даю джэнтльмена слова,
Што выцягну цябе з дрыгвы.
— Мільён?! Ды лепей згінуць я гатовы,
Каб [redacted] жывы
З уласнымі грашыма развітаўся...

— Як хочаш,— дзядзька Сам тут рассмяяўся,—
Маліся богу,
Хай ён выцягвае цябе адтуль! —
І, пхнуўшы кіем паглыбей нябогу,
Дадаў: — Гуд бай, мілорд! Пакуль!
І адвярнуўся ад партнёра.
А Джон рабіў ужо «буль-буль»...

Якія могуць быць саюзы, пакты, дагаворы
Сярод ваўкоў мацёрых?
Там правы той, хто перамог,
Там капітал, а не сумленне,— бог.

## ПРАЖЭРЛІВЫ КРУК

Зіма. Завея. Маразяка.
Як кажуць, добры гаспадар
На вуліцу не выжане сабаку...
Зямны звініць, здаецца, шар!
На дрэвах воблачкі пушыстыя застылі,
І стукае у шыбу верабей,
І комін галубы гаротна абляпілі —
Гарнуцца птушкі да людзей,
Іх сцюжа лютая і голад працінае...
Я фортку адчыняю,
На падаконнік сыплю, не шкадую круп,
Няхай дзяўбуць. Дабра ў мяне хапае.
(Ну, кашы не звару — згатую суп...)
І да акна ляцяць імкліва
Мае крылатыя сябры,
Глядзяць даверліва, не палахліва,
Хоць ты у рукі іх бяры!
Дзяўбуць адменна, дружна, ў міры,
Аж сэрца радуе рытмічны перастук!
Але... аднекуль прыляцеў задзіра,
Пражэра Крук.
Начубіўся. Стаў буркатаць. Круціцца.
Усіх распіхваць,
Па галаве біць галубіцу
І Верабейку кожнага таптаць.
Нікому не дае схапіць зярняці,
А у самога лопае валляк,
Вось-вось прытомнасць страціць...
Ды раптам, невядома як,
Нібы на тое ліха,

Падкраўся ціха
Чорны кот...
Ўсе птушкі кінуліся ў лёт,
А Крук цяжкі не змог ў паветра ўзняцца.
І трапіў ён у кіпцюры...

Сябры,
Пачнеш да іншага часамі прыглядацца:
Ну, той жа ненажэрны крук...
Ўсё да сябе грабе, хапае,
У бліжняга скарынку з горла выдзірае,
Ад тлушчу крэкча, як вяпрук,
Людзей не бачыць ён з-за прорвы-жывата...
Вось на хапугу гэтага б ката!

# ЗЯЗЮЛЯ І КУРАПАТКА

Адным выпадкам
Зязюля шэрая сустрэлася у лесе з Курапаткай,
Якая з вывадкам гуляла між кустоў.
— А божухна! — Зязюля закугала,—
На дзетачак сваіх звяртаеш ты увагі мала,
Глядзі, каб іх не разгубляла...
Бо ў лесе шмат лісіц, ваўкоў!
Ці ж можна быць такой бяспечнай?
Ну і матулі сёлета пайшлі...
Ды гэта проста бессардэчна!
Мяне трасе усю! Я не магу маўчаць!
І тут, бясспрэчна,
Я мушу біць у звон, на лес увесь крычаць,
Каб дзетак ад такое маці
Аднялі
І аддалі
Саве ці Сойцы даглядаці.
— Зязюленька, вядома, я не ідэал,—
Збянтэжаная Курапатка адказала,—
Ды растлумач — у чым знайшла ты крымінал,
І раскажы, як дзетак ты сваіх пагадавала?
...Зязюлька ўраз стуліла дзюбу,
Ад Курапаткі падалася прэч...

Тут вось якая рэч:
Дыдактык-мараліст падчас спявае пафасна і люба,
Здаецца, для усіх узор,
А калупні глыбей — пазёр і фарысей.

## ДАБРАДЗЕЙ

Сымонка з Янкам побач некалі жылі,
Ў той час абодва шчэ яны халасцякавалі,
Бывала, што і чарку разам бралі
І, ідучы дамоў, «Шумеў чарот» спявалі.
Але «зялёныя гады» даўно ўжо адышлі!
Сымонка угару палез, заняў салідную пасаду,
Сымонам Карпічам ён называцца стаў!
І пуза ладнае і карачак нагадаваў,
Над калектывам пэўным пэўную ён меў уладу
І нос, вядома, свой да неба задзіраў!
Калі цяпер ён з Янкам сустракаўся,
Дык на яго глядзеў, як на мурашку слон:
— А-а-а! Штось прыпамінаю, як праз сон...
Здаецца, ты футболам захапляўся?
Быў вальнадумец і лайдак...
Так-так!
Са мной заўсёды ты спрачаўся...
Ну, бывай!
Бягу на пасяджэнне АБВГДЕКОМА,
Глядзі! За гальштук моцненька не закідай
І дома не шумі... Мне ўсё вядома!
Разведка, так сказаць, на вышыні!
Паклон радні...
Дарэчы, братка,
Калі ты вернеш мне дзесятку?
— Дзесятку? — Янка бровы ўзняў.
— Ага. У сорак шостым пазычаў...
Мажліва, ты забыў пра гэта?
А я у кандуіт свой запісаў...
Маё нідзе

Не прападзе!
Я на таксі адвёз цябе з банкета
І выручыў з бяды... Гані манету!
— Ах, дзякуй, дабрадзей!
Твой «подзвіг» будзе памятаць гісторыя!..

Ёсць тыпы некаторыя:
На грош карысці прынясуць,
А на рубель вас папракнуць!..

## ВЕРАБЕЙ І ПЕНТАГОН

«Пентагон выношвае планы выкарыстання ў ваенных мэтах прадстаўнікоў птушынага насельніцтва планеты. На гэтыя вышуканні міністэрства асігнавала 600 тысяч долараў».

(З газет)

Звычайны шэры Верабей,
Які туліўся дзесь пад дахам незаконна,
І выбіваўся з сіл, каб пракарміць дзяцей,
Раптоўна стаў персонай!
А як жа! Ім зацікавіліся генералы Пентагона,
Яго фактычна мабілізавалі,
Мундзір адзелі, пачапілі пісталет
І ва універсітэт
Накіравалі,
Каб там яго, як дыверсанта, падкавалі.
— Ну, жоначка, цяпер мы зажывём! —
Чырыкаў Верабей усхвалявана,—
Як афіцэрам кадравым я стану,
Тады ўжо канапель ад пуза падзяўбём!
А даслужуся як да генерала...
— О-ох! — тут Вераб'іха заўздыхала,—
Не падабаецца ўсё гэта мне,
Хаця б ты даслужыўся да капрала,
Баюся, што ты згінеш на вайне...
Як з дзецьмі быць ўдавою?
— Ну-ну! Ты станеш жонкаю героя!
Не румзай, а шыкоўненькі абед рухтуй!
Гасцей паклічу, трэба развітацца.
Хай ведаюць усе, што еду я займацца!
І грошай не шкадуй!

І ф-фыр-р з гнязда! Сеў на франтон высока:
— Чырык! Чык-чык! Гэй, дзе вы, абібокі?
— Чык-чык! Чырык! —
Пачаў склікаць усіх вераб'ёў навокал,
Круціцца перад імі і падскокваць:
Ну, як мундзірчык? Шык?!
Але убачыце яшчэ не гэта...
Вось прылячу праз год
Пры аксельбантах, эпалетах...
Ды тут з-за коміна драпежны Кот
Як сігане на стаю,
Ўчапіўся кіпцюрамі ў Вераб'я:
— Папаўся, «генерал»! Вось зараз я
Цябе і паспытаю,
Які, ваяка, ты на смак...
Так-так!
— Ды як ты смееш! Я мабілізаваны!
Мяне ахоўвае закон! —
Затрапыхаўся Верабейка узлаваны.
— Закон? Ай, напужаў мяне ты, балабон.
Галодны я, каханы,
І мне начхаць на Пентагон.
І Вераб'я Кот праглынуў з касцямі.
...А Вераб'іха тая
Усё чакае
Калі заявіцца яе мужык з шаноўнымі гасцямі.
Ой доўга давядзецца ёй чакаць...

Ні вераб'і, ні попкі, ні вароны
Не дапамогуць Пентагону
Над светам панаваць.

# ВЕЛІКАСВЕЦКІЯ «БАБЫ»

У добрай маці — роўныя ўсе дзеці.
Няма любімчыкаў, і пасынкаў няма.
Але... бывае рознае на свеце!
І байку распачаў я недарма.

Ў Кандрацісі было сыночкаў двое:
Макар старэйшы і малодшы Вальдэмар;
Адзін зануджаны, хлапчо худое,
Другі — блішчэў, як самавар!
Старэйшы быў нялюбым у матулі,
Малодшанькі, наадварот,— пястун,
Лізун!
Макару тыцкалі заўсёды дулі,
Ды лупцавалі без віны дубцом...
А Вальдэмара — да грудзей гарнулі,
Квахталі, як квахтуха над яйцом.
Хоць да работы ён зусім не меў імпэту,
Яму заўсёды за абедам
Тлусцейшы і смачнейшы кус даюць,
І гладзяць па галоўцы,
Цалуюць, побач спаць кладуць —
Ну, казка, не жыццё для хлопца!
Для маці Вальдэмар
І бог і цар,
Дагэтуль сусла смокча,
Хоць вусы зарунелі над губой...

Які тут вывад мой?
Што я сказаць тут хочу?

Калі узяць шырэй маштабы,
Калі глыбей капнуць,—
Велікасвецкія вусатыя ёсць «бабы»,
Якія прынцыпамі гэткімі ж жывуць:
Адным заўсёды — пірагі і пышкі,
Другім жа — сінякі ды шышкі.

# СЛОН І ШАКАЛ

Стары рабочы Слон
Нёс велізарны груз на карку.
Даўно, вядома, ён
На пенсію пайсці б мог
і адпачываць у заапарку,
Але не мог сабе слон уявіць,
Як сможа ён жаваць салому, сена,
Нічога не рабіць —
Цягнуў ён лямку век сумленна.
І зараз груз валок паміж лясных прагал,
Крактаў, сапеў, але наперад варушыўся...
Ды тут аднекуль выскачыў Шакал,
І да Слана ён прычапіўся...
За ногі стаў яго кусаць,
Сліною пырскаць і раз'юшана брахаць:
— Зірніце, ледзьве ногі ён перастаўляе...
А Гаспадар ўсё цацкаецца са Сланом,
Яму ўсё патурае,
Не перацягне па вушах дубцом...
Мне б гэны груз —
дык я бы, несумненна,
Не поўз, а бег трушком!
Тут Гаспадар імгненна
Цюк са спіны слановай зняў
І на Шакала, што каля ног круціўся,
Бац! — і ўсклаў:
— Цягні, калі сам напрасіўся!
Шакал і гаўкнуць тут не змог,
Бо — здох...

Трапляюцца яшчэ шакалы,
Якія любяць падкусіць і аббрахаць
(Гэта лягчэй, чым працаваць),
Ды веры ім ужо не стала!

2 Зак. 166

## НА ДЫВАНЕ

Начальнік зверху выклікаў Назара на «дыван»
І «стружку» зняў такую ён з Назара,
Што заклубілася з яго аж пара:
— Ці ты работнік, ці цурбан?
Фінансавы зрываеш план!
Прыбытку не даеш — адны выдаткі...
Раздзьмуў звыш каштарыса штат,
Куды ні глянь — усюды непаладкі,
Ў цябе ж завод, а не дзіцячы сад...
Калі не навядзеш парадку —
На вочы мне не пападайся,
На пенсію адразу афармляйся!
— Іван Васільевіч! —
Ўзмаліўся наш Назар,—
Даруйце! Вінаваты...
Звяду да мінімуму штаты,
Каб ніякі камар...
— Што-што? —
Іван Васільевіч зноў усхадзіўся,—
Мяне раўняеш з камаром?!
Ты што? Забыўся?!
Вось чыркану пяром —
І ад цябе не застанецца й паху!..
...Назар затросся, заікацца стаў ад страху:
— Ва-ва-ва-вас...
Ды-д-ды з ка-ка-кама-ма-ма-ром?
Ха-хай раз-з-з-заб'е
мя-не тут гы-гы-гром!
Ха-ха-хай, с-с-спе-пя-пя-ліць
ма-ма-малан-к-ка!

Ка-ка-калі я ме-ме-меў
н-на ўва-ув-ва-зе В-в-а-ас...
— Ну-ну, сядай і газіроўкі выпі шклянку,—
Змякчэў начальніцкі адразу бас,—
Які ты, брат, нервозны...
Ды супакойся. Я пажартаваў...
— Іван Васільевіч! —
Назар зарумзаў слёзна,—
Са львом бы Вас я параўнаў!
Такі магутны Вы! Такі Вы грозны!
Ды сэрца мяккае, не помніць зла...
Дай бог Вам шчасця! Моцнага здароўя!
Ох і люблю ж я Вас вялікаю любоўю!
Ад нас усіх Вам гонар і хвала!
І шчырая падзяка!
Ура! Ура!

Падвесці мне «баланс» пара:
Хоць гаспадар і б'е сабаку,—
Ды ліжа той руку гаспадара...

# СВІННЯ Ў ГАСЦЯХ

Каза Свінню паклікала на імяніны...
Ну як суседку не пазваць?
Пакрыўдзіцца. Пачне капаць.
Сварыцца. Абражаць.
А там нядоўга да судовай цяганіны...
Суседзі ў міры жыць павінны!
Таму разумная Каза,
Узважыўшы ўсе «супраць», «за»,
Свінню на імяніны запрасіла...
Шыкоўны стол і шмат гасцей,
Ўсе віншавалі гаспадыню міла.
Казалі кампліменты, тосты чуліся часцей,
Затым зайграла радыёла,
Твіст і чарльстон падскокваць пачалі,
А ў перапынках зноўку елі і пілі,
Ва ўсіх настрой святочны быў, вясёлы!
Адна Свіння,
Нажраўшыся без меры брагі,
Круціла лычам, хрукала:— Я! Я!
Персона важная і патрабую персанальнае увагі!
— Паслухай, не блазнуй! —
Свінню ўгаворваў тут Баран рагаты,—
Ідзі паціхеньку дахаты,
Ўрачыстасці не псуй!
— А мне пляваць на ваша свята...
І на усіх на вас пляваць! —
Свіння усчала капытом махаць
І ўсё вышэй свой лыч кірпаты
Угору драць.
І, ашалеўшы канчаткова,

Ускочыла на стол,
Была гатова
Патрушчыць шклянкі, пляшкі і талеркі,
Ды тут яе схапіў і выкінуў за дзверы Вол.

Хто з нас не хлебасол?
Для госця не шкада ні закусі, ні паўлітэркі,
Прыходзь хоць дзень пры дні,
Частуйся, чарачку цягні,
Але трымайся чалавечай меркі,
Не ўпадабляйся той свінні...

## ТХОР

Раз на птушыны двор
Залез смярдзючы Тхор...
Ну, і пачаў душыць курэй, гусей, індычак.
А у Тхара
Такая звычка:
Калі яму хваста не прышчаміць,—
Дык не чакай дабра —
Ён можа птушак ўсіх перадушыць...
Ўзяла тут злосць Гаспадара:
— Ах ты брыдота! Душагуб паганы...
Я гэтага не пацярплю!
А позна-рана —
Ванючку крыважэрнага злаўлю!
І ў месцы, дзе быў лаз тхарыны,
Паставіў пастку Гаспадар.
І тут, як толькі сунуўся галаварэз
на двор птушыны,
Адбыўся гэтакі удар,
Што ад Тхара не засталося нават і ўспамінаў...

Ізраільскім агрэсарам сказаць хачу:
З чужой зямлі лепш вымятайце свае лахі
Бо вам дадуць так па лычу,
Што не застанецца ад вас і паху...

## «ГЕРОЙ»

Якісьці падхалім,
Вярнуўшыся ад шэфа,
Усклікнуў: — Сёння я не здрэйфіў!
Я разлічыўся як належыць з ім!
Расклаў яго на дзве лапаткі,
Так што ён пікнуць не пасмеў...
— Няўжо? А братка,
Ды што ты — звар'яцеў?
Ўсё як было — расказвай нам ты па парадку.
— Дык слухайце: прыходжу на даклад,
Аддаў паперы,
А сам, бы зайка шэры,
Стаю, дрыжу і свету божаму не рад...
А ён і ўвагі не звяртае,
Ў паперы ўнурыўся мае,
Штосьці пад нос бубніць, мяне, напэўна, лае...
Тут і мая душа не ўтрывала:
«Ах, думаю, каб на цябе пярун!
Пракляты бюракрат! Сядун!
Каб табе жонка пытлю надавала!
Каб большай ты не меў кар'еры!
Каб трасца табе ў бок...
Зануда грэшная, чынуша і смарчок...»
...А ён гартае ціхенька паперы
І мне ні слоўца у адказ...
А потым, ветліва, лагодным тонам:
«Ідзіце. Не затрымліваю Вас».
Што значыць крытыка! —
закончыў падхалім з рэзонам,—
Стаў шоўкавым, хамула, свінапас...

Вядома, крытыка магутнейшую сілу мае!
Яе баіцца дэмагог, чынуша, бюракрат...
Але хто ў думках толькі шэфа лае,
А ў вочы льсціць,
ды спіну перад ім у крук згінае —
Той ганьбы сам найбольшай варт!

# СІНІЦА І САРОКА

Сініца трапіла ў бяду...
(Знянацку бура прашугала,
Вятрыскам у ваду
Гняздо сарвала.)
— А божухна! А любыя суседзі!
Ратуйце! Гіне мой дамок...
Аж тут Сарока лётала паблізу недзе,
Пачула крык і села на сучок:
— Ну-ну! Не трэба мітусіцца,
Не трэба галасіць,
Сястрыца,
Я пастараюся у горы падсабіць,
Да Крумкача злятаю,
Пытанне утрасу,
Інструкцыі там атрымаю...
Жаданы паратунак прынясу!
Чакай і дужа не хвалюйся,
Я хуценька вярнуся!
Ўзмахнула крыллямі! — прастыў яе і след..

Бяда, калі такія ў вас суседка ці сусед —
На словах шчодры на спагады,
На справе — ані кроку без загаду.

# СВІНЯЧЫЯ НОТЫ

Адна Свіння шалёна завішчэла:
— Ці ж гэна дзела?!
Спрадвеку па лычу нас б'юць...
Ні жалудоў пад'есці, ні карыта абярнуць —
Адразу абсмяюць нас байкаробы,
Каб трасца ўсім
ім
У вантробы!
Па-свінску жыць нам не даюць...
Была б я Львом — дык крытыку зусім забараніла!
А ўсіх сатырыкаў — ў катух бы пасадзіла
На лебяду
І на ваду!

Калі я чую: «Байка устарэла...»,
Таму кажу я ў вочы смела:
— Не дзьмі, браток, ў свінячую дуду!

# МАСТКІР *

У Палац культуры,
Ў якасці мастацкага кіраўніка
Прыслалі Гусака.
Ну, брат, фігура!
Чырвоны нос з гарбінкай,
Не шыя, а скрыпічны ключ,
Важнецкая хада, ў вачах зялёныя іскрынкі!
Што і казаць! Масткір — магуч!
Мог плаваць, лётаць, на ільдзе скакаць,
На вечарынках тосты вершамі казаць,
Меў гучны, басавіты голас,
І не хмялеў ён ні на волас...
— Ну, гэта ідэал!
Ну, гэта ўніверсал!
Мно-га-ста-ноч-нік! —
Дырэктар-Певень галасіў
І аж заплюшчваў у экстазе вочкі,—
Цяпер усіх
Мы на аглядах
Пакінем ззаду!
Ды Певень загадзя дарма ўзнімаў браваду...
Аднойчы трапіў ён у клас вакала,
Дзе Качачка прывабная спявала.
— Ну як, маэстра, новая салістка? —
Спытаўся Певень ў Гусака,
— Хто? Качачака? Чароўная ў патэнцыі артыстка!
Надзея нашага ПаКа *.

---

* Масткір — мастацкі кіраўнік.

* ПаКа — Палац культуры.

Зірніце, шэф, што за натура!
Якія бёдры, грудзі, стан!
Яна, вядома, і не без заган...
Пакуль што гліна — не скульптура.
Надаць ёй смеласць трэба і размах,
Правінцыяльную аслабаніць скаванасць,
Як кажуць, патрымаць у вопытных руках,
Ну, абкатаць, каб атрымалася сапрана...
— Ну-ну! Абкатвай. Ды старанна!
А калі што — дык я дапамагу,—
Прамовіў Певень і дадаў ўжо на бягу:
— Ды з поля зроку ты не выпускай
І іншыя таленты,
Каб на аглядзе нам былі апладысменты!
Гуд бай!
— Гуд бай! — Гусак загагатаў
І рэпетыраваць так інтэнсіўна стаў,
Што ў выніку такой руплівае абкаткі
Ён поспехаў дабіўся —
На прымадоне ажаніўся...

Ды вось загадка:
У каторы раз?
Спытайце Гусака, калі цікавіць вас.

## ГАЛАВА І «РУКА»

Хлапчук з маленства быў хітрун:
Ў ваду ускочыць — не памочыць ногі,
Сяброў утравіць у бяду —
сам выслізне, нібы уюн...
Другім папружка,
а яму — нічога.
— Ох, шэльмачка, плуцяга, прайдзісвет! —
На хлопца гледзячы крытычным вокам,
Казаў з ухмылкаю сусед,—
Такі праб'е свой шлях,
узнімецца высока!
А хлопец рос ды рос...
Глядзіш — закончыў дзесяць класаў
І ў інстытут падаўся ён з калгаса —
Спрыяў яму тут лёс!
А там — ускочыў у аспірантуру,
І, хоць не меў інтэлектуальнай ён фактуры,
Ды быў ён зухаваты
Жук
І ў хуткім часе кандыдатам
Стаў навук.
Ды мала гэтага —
замах на доктара ён робіць!
Хай у навуках так шалопіць,
Нібы шаман,
Свайго дасягне, безумоўна,
Бо акадэміка дачку узяў ён «на таран»,
І акадэмік апанентам стаў яго галоўным —
Што ні кажы, а цесць!
Ну як у дактары тут не пралезць?

Ну хто не падтрымае
Сваяка?

Бывае
Сітуацыя такая,
Што галавы важней — «рука»...

## ФАНАБЭРЫСТАЯ «ЦАЦА»

Пятроўна — птушка не абы-якая!
Яе не возьмеш голаю рукой...
Ідзе і нос угору задзірае,
Нібыта міністэрша прад табой!
А як жа, браце,
Яна ж працуе у «вялікай хаце»!
(Паперкі падшывае,
на машынцы стракаціць,
З начальствам ладзіць палюбоўна...)
Ну як хвастом тут не фінціць?
І вось у санаторый трапіла Пятроўна...
Ну што ж, лячыся, сілы набірай,
Сябе і іншых паважай,
Дабра жадаем мы табе, шаноўнай!
Дык не ж!
Яна тут стала штучкі выкідаць:
То ёй сусед папаўся нетактоўны,
То падалі абед,
бач, не шыкоўны...
І кухара яна ўзялася распякаць!
То персанальны тэлевізар
у свой «люкс» патрабаваць,
Штодзень гнявіцца, абурацца,
Да нянек і сясцёр чапляцца...
І так каля яе адной
Медперсанал на дыбачках гарцуе,
А фаварытка усё больш лютуе,
А божа мой,
Ну й фанабэрыстая «цаца»!..

---

У філасофію не станем мы ўдавацца,
Дзе б хто ні працаваў,
Якое б крэсла ні займаў —
Патрэбна Чалавекам заставацца.

## МІМОЗА

Закончыла Мімоза інстытут,
Ёй выдалі дыплом, павіншавалі
І на работу у калгас накіравалі.
Але істэрыку Мімоза закаціла тут:
— З сталіцы ды ў сяло?
Вось не паеду ўсім назло!
Не для таго я столькі год
над кніжкамі карпела,
Зубрыла хімію і дыямат,
Каб я вырошчвала гуркі, салат,
Грачыху, лубін, сырадэлю...
Каб маладосць губіць у глушыні —
Ані!
Яшчэ ж я не здурэла
Ламаць спіну і пэцкаць манікюр.
Я вам не з тых натур...
Калі у міністэрстве мне не знойдзецца пасады,
Калі не дапамогуць сваякі —
Дык хопіць у мяне і спрыту і прынады
Для ўсіх шукальнікаў маёй рукі!
І вось праз тыдзень там які
Крычалі: «го-о-рр-ка!» маладой,
За жаніха з нявестай узнімалі чаркі.
...Пір адшумеў. І божа мой,
Такія ў хаце пачаліся сваркі,
Што хоць ты выклікай канвой...
(Вядома, цяжка дужа
Знайсці за тыдзень неблагога мужа.)
Але Мімоза не ўнывала,
Свайго каханага прагнала,

Уладкавалася ў буфет,
Гарэлку адпускае,
Наводзіць манікюр і іншы марафет,
Жыве і не шманае!

Другі у інстытут лезе пішчом,
Каб толькі мець дыплом.
Ну, а закончыў і... прывет! —
Падаўся у буфет.

# АНКЕТА І Г. Д.

Аўдзей Іванавіч як добрага суседа
Сымона з малалецтва ведаў,
Бо разам лазілі у яблыкі, гуркі,
Вучыліся, кахалі,
На фронце ў адной роце ваявалі,
На сёстрах пажаніліся. Ну, словам,— сваякі!
Бліжэй, здаецца, парадніцца ўжо няможна —
Давер'е поўнае, саюз!
Але дарогай рознаю пайшоў з іх кожны:
Аўдзей Іванавіч стаў важны туз,
На верхатуры дзесь заняў пасаду;
Сымон жа узначальваў будаўнічую брыгаду,
Але за крытыку патрапіў у бяду —
Быў звалены. Прыйшоў да сябра за парадай:
— Напэўна, праўду я ў цябе знайду...
Жыццё маё перад табой як на далоні.
...Аўдзей Іванавіч у крэсле закрактаў:
— Цыц! Зноў языку ты волю даў?
Вунь, пасівелі твае скроні,
А розуму ніяк не нажывеш,
Усё зпляча сячэш...
Запомні, даражэнькі, глупства не рабі:
Супроць цячэння не грабі,
Бо вылезе, брат, бокам.
Будзь дыпламатам і не пніся на ражон —
І ўзнімешся, як я, высока!
Такі жыцця закон,—
І, падміргнуўшы мнагазначна вокам,
Аўдзей Іванавіч спагадліва дадаў:
— Пішы заяву, біяграфію і запаўняй анкету,

Табе я нешта падшукаў.
— Анкету? Ды навошта валакіта гэта?
А мо ты не пазнаў
Суседа?
Дык вось мой пашпарт і працоўная вось кніжка.
— Пазнаў! Але паслухай крышку
І правільна мяне ты зразумей —
На кожнага, як кажуць, чалавека
Павінна справа быць і картатэка.
Дык не выпендрывайся! Афармляйся, і хутчэй!

Я не супроць анкеты
І згодзен з формулаю:
чалавек сапраўдны чалавеку брат,
Але дадам пры гэтым:
Не можа братам быць адпеты бюракрат.

## ЛЕЎ І БЛЫХА

Саноўны Леў
Знянацку захварэў...
Вядома — шкода,
Але што зробіш? Не папрэш супроць прыроды...
Ільвы ж таксама з мяса і касцей,
А не са сталі.
Ды тут, нібы на ліха,
і намеснікі паад'язджалі...
І вось Блыха,
што каля Льва падскоквала часцей,
Бразды праўлення ў свае лапкі ўзяла,
Камандаваць парадам стала!
Наскочыла адразу на Казла,
Затым Дзіка ўвесь дзень даймала,
А Зайку ледзь не даканала...
Нікому не дае Блыха спакою,
Хоць ты ў раку кідайся галавою...
Замучыла звяроў усіх, пакуль вярнуўся Леў.

Падкрэсліць я хацеў:
Казюрачка малая
Мацней, чым буйны звер кусае.

# ГРАФАМАН

На пенсію пайшоў Даніла...
(А быў яшчэ ён здаравяк!)
І вось занудзіўся дзівак:
«Куды дзяваць свой час? Куды прыкласці сілы?
Не паляўнічы я. І не рыбак,
І не грыбнік зацяты...
Пляваць у столь? Або гуляць у карты?
Без справы, ліха пабяры,
Загнешся без пары...
Патрэбна нейкі мне знайсці занятак!»
І раптам закрычаў,
Нібы адкрыў Даніла наш Амерыку:
— Эўрыка! Эўрыка! Работу [illegible] па сэрцу
адшукаў!

Яшчэ я трахану, як кажуць, сівізною!
Праслаўлюся на цэлы свет!
Шчэ адсмалю такое!..
І наш рахманы «дзед»
Засеў з алоўкам у альтанцы.
Пісаў да ночы штосьці ў ліхаманцы,
Аж узмакрэла ў яго плеш.
А раніцою —
К рэдактару прыбег ён з пісанінай тою:
— Вось, калі ласка, надрукуйце верш,
Ён пра каханне маладое...
А надрукуеце — на гэту тэму
Я напішу раман або паэму!

О графаман, не злуй, а выслухай параду!
Макулатуры не пішы, унукаў лепей калышы
Або вырошчвай на градзе расаду.

# ДАЛІКАТНАЕ ПЫТАННЕ

К дырэктару завода
Кабеціна зайшла
І скардзіцца на мужа пачала:
— Начальнік, родненькі, прыміце нейкія захо́ды,
Ўжо сіл маіх няма...
П'яны прыходзіць чалавек заўсёды,
Ўсё чэпіцца дарма,
Ў ход кулакі пускае,
Палохае дзяцей...
Як жыць далей з ім — я не знаю,
Не чалавек, а — ліхадзей.
Ды ліханька не толькі у паўлітры,
Зусім здурнеў на старасць мой Паўлюк —
Завёў наводшыбе каханку-цытру.
Такуе з ёй, як цецярук...
Ад сораму гатова скрозь зямлю я праваліцца.
Няўжо разводзіцца?
Амаль жа век з ім пражыла...
— Вы супакойцеся. Не трэба гарачыцца
І з камара рабіць вала.
Глыніце вось вады,—
Дырэктар ёй падсунуў шклянку,—
Ваш муж — дзяцюк не малады
І вы не верце плёткам пра каханку,
А вось за кулакі,
За п'янку,
Калі пацвердзіцца на справе факт такі,
Тут дам я прачуханку,
І ён
За тэлефон:

— Начальнік цэха? Прывітанне.
Зайдзі-ка да мяне у кабінет,
Ёсць далікатнае адно пытанне...
...Начцэха з ходу разгадаў «сакрэт».
І, ацаніўшы сітуацыю,
Зайграў, нібы на скрыпцы, варыяцыі:
— Старанны, дзелавы
І залатыя рукі,
Як кажуць, майстар на ўсе штукі.
Але ён чалавек жывы,
Не без граху. Хто з нас бязгрэшны?
Ручацца за яго я не магу, канешне.
Вы кіраўнік. Дырэктар. Вам у рукі карты.
Мая тут з краю хата...

Такому майстру, ці начцэха —
Адна уцеха,
Калі выконвае рабочы план.
А тое, што падчас
ён п'яніца, распуснік, хуліган —
Няма ніякай справы.
Таму і маем амаральныя праявы.

## АРАНЖЫРОЎШЧЫК

Музыка дамаспелы Скрыпунок,
Які у нотах з горам разбіраўся,
Сяк-так ў руках трымаў смычок,
Пілікаў «чыжыка» і «крыжачок»,
У кампазітары падаўся!
Але, каб напісаць санату ці сімфонію
Або арыгінальную мелодыю стварыць,
Патрэбна дасканала знаць гармонію,
Ну, а галоўнае, таленавітым музыкантам быць!
Мець божы дар,
Мець творчае натхненне!
А Скрыпунок ад нараджэння
Быў, як гаворыцца, глухар...
Аднак прырода і яго не абдзяліла:
Пранырлівы, настырны, прабіўны,
Трубіў усім і біў ва ўсе званы,
Што ён не кампазітар — сіла!
Ды словы словамі, а справа справай —
Што ні напіша, небарак —
Не музыка, а брак —
Ні ганарару і ні славы...
Другі б, напэўна, рукі апусціў і духам заняпаў,
А Скрыпунок быў не такоўскі,
Хоць ён не стаў Чайкоўскім,
А «залатую жылу» адкапаў!
Народныя мелодыі, забытыя рамансы,
Стаў «аранжырваць»,
перакручваць на эстрадны лад...
О, тут ён зух быў, хват!
І пацяклі ў кішэнь яму фінансы.

А «скрыпункі» ёсць і ў літаратуры...
Як пішуць лоўка!
Ну што ні твор — пераліцоўка,
Замаскаваны плагіят, халтура.

# ГУСАК І ІНДЫЧКА

Індычка Гусака прычаравала...
Ну, а каханне — не картопля, ведама даўно,
Яго не выкінеш ты праз акно...
Спакою Гусаку не стала,
І ў галаве яго было адно:
Як падлабуніцца да міленькай Індычкі?
Такі ў яе ўжо грозны муж,
Такога лепш не руш,
Бо дасць па носе добрай пстрычкі...
Але ж каханне дапякае Гусака,
Змарнеў аж, ад сям'і адбіўся,
Здалёку на зазнобу ўсё дзівіўся...
І... дзякуй богу, Індыка
Адправілі аднойчы у камандзіроўку.
Гусак дарма не бавіў час —
Каля Індычкі апынуўся ўраз,
Пайшоў на прыступ лоўка:
— Да смерці, дарагая, я кахаю Вас!
Гатовы на любыя я ахвяры...
Аб Вас я днём і ноччу мару!
Вы мая зорка! Вы мой лёс!
Тану па Вас у моры слёз,
Згараю ад любоўнага пажару...
— Ну, калі так,—
Жартуючы Індычка балбатала,—
Тады, мой дарагі Гусак,
Каб па закону ўсё было, ніякага скандалу —
Вядзі мяне ты ў загс!
...Гусак адразу згас,
І красамоўства ўсё яго прапала.

— Навошта ў загс? Жывіце з Індыком,
А да мяне прыходзьце на спатканне
Інкогніта, крадком...
Прыхільнік ■ свабоднага кахання!
І ненавіджу шлюбу ланцугі...
— А у мяне, запомні, дарагі,
На гэтае пытанне
Пункт гледжання другі.
Перада мною марны заляцанні! —
Адрэзала Індычка у адказ.

Астаўся «з носам» лавелас.

# АБРУС І СУРВЭТКА

Каля парога, на зямлі,
Ляжаў Абрус стары, падраны,
Забыты, занядбаны,
Так тыдні, месяцы, гады ішлі...
Нагамі бруднымі яго таптналі,
Падэшвы ботаў выціралі.
Ды вось,
Пасля вялікай трызны,
Калі ішло мыццё бялізны,
З ім побач кінулі за штосьь
Сурвэтку.
— А, добры дзень, суседка! —
Звярнуўся да яе Абрус,—
Што? І цябе такая напаткала доля?
Ўжо непатрэбна за сталом ты болей?
— Ды як ты смееш уступаць са мною у хаўрус?!
І што за тон такі фрывольны? —
Адсунулася ад яго Сурвэтка,—
З'яўляюся я першай неабходнасцю настольнай!
Якіх пірушак і банкетаў не была я сведкай!
Якіх ласункаў і заморскіх він,
Якіх асоб высокіх я не знала,
Калі я на стале ляжала!
А ты тут, на падлозе, як жабрак, адзін...
— Э, любая... Не гневайся, не дакарай...
Калісьці і маё жыццё было як рай!
Хадзілі кубкі ля мяне па кругу
І брага пенілася цераз край...
Ды годы адышлі, і, быццам непатрэбную анучу,
Мяне пад ногі кінулі сюды...

Жыццё ўсяму навучыць:
Ад шчасця да бяды —
Адзін, як кажуць, крок,
І ад яе мы не застрахаваны...
Дык ад гаротніка не адварочвайся убок,
Будзь літасцівы, чалавечны і гуманны!

3 Зак. 168

## КАРОЛЬ І ЧОРНЫЯ ПАЛКОЎНІКІ

Ў якойсьць краіне — ці ж іх мала? —
Жыў-быў кароль...
І хоць глуздоў ў яго чаропцы не хапала,
Сядзеў на троне, націраў мазоль...
Наладжваў балі, асамблеі.
Ў дні каранацый, юбілеяў
Прамовы доўгія чытаў...
Не шкадаваў
Народу
На словах мёду
І алею —
Хто ж абяцанкі сыпаць не умее?
Быў у яго і корпус дыпламатаў,
І алілуйшчыкаў-прэлатаў,
І плойма цэлая пісак
З прадажнай жоўтай прэсы,
Што манархічныя ўслаўляла інтарэсы,
І зграя лютая сабак —
Ахоўнікаў —
Чорных палкоўнікаў...
Жыў-быў кароль, кароль быў-жыў,
Бясклопатна, шыкоўна
І з хеўрай ладзіў палюбоўна...
Ды, мабыць, раз не дагадзіў —
Ўзнялася бунтам
Тут чорная палкоўніцкая хунта,
Так што прыйшлося каралю
Пакінуць трон свой, родную зямлю
І сховішча шукаць дзесь на чужыне...
Што ж сталася без караля ў краіне?

Ледзь падзяліўшы міністэрскія партфелі,
Палкоўнікі загналі патрыётаў у турму
І пра манархію ізноў запелі...
Чаму?
Бо крумкача крумкач ніколі не дзяўбе.

Народ, будзь пільны ў барацьбе!
Не толькі небяспечны чорныя палкоўнікі,
Але любога колеру ахоўнікі
Тыранаў, каралёў
І іншых навапечаных «бажкоў».

## «ГЕНЕРАЛ» У СПАДНІЦЫ

Міронавіч з'яўляецца дырэктарам саўгаса,
І, скажам шчыра, гаспадар ён неблагі:
Высокія паказчыкі па малаку і мясу
І банкаўскі кашэль тугі,
У парніках круглагадова
Вырошчваюць радыс і памідоры, салат і агуркі,
Ёсць пчолапасека, вялікі сад пладовы.
На фермах — гусі, куры, індыкі,
Авечкі, парсюкі,
Каровы.
Працуюць і падсобныя цахі
Па вырабу каўбас, вяндліны,
А з ягад, з садавіны
Такія гоняць віны —
Як хопіш шклянку — зойме аж духі!
Ну, не саўгас, а рай,
Жыві, здаецца, і не памірай...
Ўсё капітальна і заможна.
Ды «раем» гэты кут назваць няможна.
Чаму? А вось паразважай:
Дырэктара тут жонка асядлала
(Кабеціна, прызнацца, цэнтнеры са два)
Яна, па сутнасці, ў саўгасе галава,
Як вотчыну, да рук сваіх прыбрала,
Ўсе фанабэрыі яе, ўсе прыхмаці, заскокі
Для ўсіх — загад, закон!
Ледзь пікне хто, ці гляне скоса вокам,—
Адразу гоніць вон...
На ферме, ў хаце, ў полі,
У клубе, ў школе —

Ад Любы Хведараўны паратунку анідзе няма,
Усюды чуецца яе камандны бас!
Нібы тут гарнізон вайсковы, не саўгас...
І нездарма,
Мёд пакідаючы і сала,
Ад гэтага ў міні-спадніцы «генерала»
З саўгаса хто куды,
Бы ад чумы, ўцякае...

Ды гэта паўбяды.
А што як большага начальніка
жанчына асядлае?

# РЭЗАНАНС

Раман гарэлкі ўзяў бутэльку ў краме
І кажа размалёванай, як лялька, даме:
— Шаноўная мадам,
Вы загарніце гэта мне ў паперу,
А то прычэпяцца яшчэ міліцыянеры...
— Няма паперы і не дам! —
Адрэзала ўзлавана краля,—
Тут не паштовая вам заля...
Ці з Марса апусціўся к нам?
Бач ты, інтэлігент! Культурны алкаголік!
Яму ты пляшку загарні...
Вунь аўтамат, укінь манету —
І атрымаеш свежую газету.
Праходзь. Не утварай ў чарзе тут валтузні...
Але Раман, пакрыўджаны абразай,
Таксама ускіпеў адразу:
— Прашу без «тыкання», без ярлыкоў...
Я патрабую па закону.
Падайце кнігу скаргаў, прапаноў,
І ніякіх прэпонаў!
...Успалашыліся тады ўсе гандляры,
Загадчыца апраўдвацца, бажыцца стала:
«З паперай, ведаеце, з некаторае пары...
Начальства не запланавала...
Ну што вам скарга? Пусты звон...
А нам жа — мінус. І... вялікі!
Не атрымаем прагрэсіўкі...»
Але Раман палез, як кажуць, на ражон...
А гандляры пайшлі на контрмеры —
Як з-пад зямлі з'явіліся два міліцыянеры —

І «праўдалюб» без перасадкі
Патрапіў у КПЗ як дэбашыр...

Эх, братка...
Пі не гарэлку, а кефір
І абмінай «ахоўнікаў парадку».

# АПЕРЭТЫ
# І РЭВІЗОРСКІЯ «КАРДЭБАЛЕТЫ»

Мясцком наладзіў культпаход на аперэту.
Ўсім спадабалася мерапрыемства гэта:
Ад рогату, апладысментаў грому
Дрыжэлі сцены і дрыжэла столь!
І толькі старшыня мясцкома
Крывіўся, курчыўся,
нібы яго даймаў нясцерпны боль...
— Кузьміч! —
Звярнуўся да яго рабочы,—
Чаго ты зморшчыўся, раскіс?
Чаго не хлопаеш і з намі не рагочаш?
І прымадонне не гарланіш «Бі-ісс!»
Няўжо не падабаецца вясёлы бенефіс?
А мо радыкуліт цябе так скасабочыў?
— Ўсё падабаецца. І я зусім здаровы!
Ды вось у чым сакрэт:
Як прыгадаю я,
што заўтра рэвізор бядовы
Наладзіць можа мне кардэбалет —
Дык аж няміл становіцца мне свет...
Бо, каб пакрыць на культпаход выдаткі,
Я вымушаны ўсё кругом
Узважыць, братка,
І хоць зрабіць «канём»,
Каб рэвізора збіць са следу,
Аформіць так, нібы дакладчыкаў у цэх
Мы запрашалі з таварыства «Веды»...
Ці ж то не смех і грэх?

---

З жыцця для байкі я узяў сюжэт,
І смеху тут няма і грэху, скажам, мала...
Мясцком хоць мае свой бюджэт,
Але фінансавыя кручкатворствы і завалы
Не дазваляюць скарыстаць яго як след...

## АХВЯРА КАХАННЯ

Язэп амаль што дзедам ажаніўся...
Вядома, ён да жаніцьбы
Нямала пакруціўся,
З юнацтва ён юрлівым быў!
І зараз нават многія кабеты,
Як часам ў вёску завітае з горада Язэп,
Смакуюць: — Бач, як ён акрэп!
Сапраўдным стаў цяжкаатлетам.
Якія плечы, пуза... А якая шыя!
Ну, далібог, што ў бугая,
Вось толькі валасы сівыя...
Як час ляціць! Як шпарка круціцца Зямля!
А у Язэпа клопаты ля жонкі немалыя:
То набывай шыкоўнейшы убор,
То футры, шпількі, завушніцы...
Перад люстэркам толькі б ёй круціцца!
Намажацца і — шусь на двор,
А ты сядзі у хаце, нібы тхор,
Ці ж можна з гэтакім зміырыцца?
Прытым —
Адны выдаткі!
Язэп да жонкі: — Любая, гарым!
Хоць прадавай усе манаткі...
Мо ты упрэглася б ў які хамут?
— Ча-го-о? Ды што я — кабыліца?
Ах, хрыч стары! Ах, ашуканец! Чмут!
Мне абяцаў, што буду жыць я лепш царыцы,
Што на руках будзеш насіць...
А зараз? Парабчанку вырашыў з мяне зрабіць?
Не трэ было на маладой жаніцца!

Ну, а жаніўся, ліхадзей,
Узяў красуню, кікімора,
Дык дагадзіць умей!
Інакш — ёсць у мяне ў рэзерве ухажоры...
Кіўну ледзь пальцам — наляцаць —
Аўтаінспектары, вадзіцелі таксаматораў,
Яны без грошай не сядзяць!
...На тым і скончыўся дыялаг меркантыльны,
Язэп воз цягне непасільны,
І дзень, і ноч ён працаваць гатоў,
Але нагрузка гэткая не для старых гадоў...

«Каханню ўсе узросты падуладны...»,
Як гаварыў паэт.
Але жыццё — не марш парадны...
Абмазгаваць патрэбна ўсё як след —
З кім заручацца, каб не ведаць бед.

# ЖАБА, ТРЫТОН І БУСЕЛ

На купіну ўзлезла Жаба,
ўзяла высокі тон
І залілася, заспявала!..
— Ды ты,— хвастом аж завіляў Трытон,—
Мяне зачаравала!
Сапраўдны Салавей!
Калі рванеш гучней —
Ты пераплюнеш самаго ільва!
Ад лёстачак Трытона
Аж закружылася у Жабы галава!
Напялася яна, і тут гучней трамбона
Што сілы
Зараўла!
Аж нават устурыла
З гнязда Бусла.

— Што за гармідар тут!
Хто не дае мне спаць?
— Леў... Салавей... —
Трытон спалохана стаў лапатаць...
— Ды што ты мелеш?..—
Узлаваўся Бусел,—
Я сам як-небудзь разбяруся,
Хто Салавей, хто Леў!..
І Жабу з'еў!
— Ды гэта ж самая звычайная Жабуся!
Гэй, дзе ты там?
Трытон?!
Куды цябе нячыстая загнала?

Рэкламшчыкі і падпявалы
Узнімуць часам звон,
Ажыятаж,
А падаплёка тут — падхалімаж!

# ТЭХНІКА І ПЕДАНТ

Спазняўся чалавек на працу...
Ускочыў. Хуценька стаў апранацца.
«Але нічога,— разважае чалавек,—
Жыву ж я не ў каменны век...
Навошта хвалявацца?
Аўтобус за якія паўгадзіны
Да месца давязе мяне!
Працоўнай не парушу дысцыпліны
І шэфа строгага накачка абміне».
Дабегшы да прыпынку,
Стаў нецярпліва «тэхніку» чакаць...
Хвілінка скача за хвілінкай —
Машыны, бы знарок, чамусьці не відаць.
Нарэшце, плюнуўшы ад гора,
Паслаўшы ў адрас транспартных тузоў
З дзесятак сакавітых слоў,
Пабег, як спрынтэр, у сваю кантору!
Ды як ні пёр —
На пяць хвілін спазніўся,
Бо сэрца чалавечае — не гоначны матор,
Ды з гэтым шэф не палічыўся,
І ў падначаленага мёртвай хваткай учапіўся:
— Вы што? На службе ці у доме адпачынку?
Транжырыце дзяржаўны час!
Уявіце на хвілінку,
Калі так зробіць кожны з нас!
Затым крануўся шэф эканамічнае праблемы,
Інтэнсіфікацыю і космас зачапіў,
І, ўрэшце рэшт, пласцінку закруціў
На міжнародныя ён тэмы...

О! Гэта быў яго канёк!
(Няштатным лектарам ён дзесь лічыўся
І выступаць перад «народам» не ляніўся!)
Усе цытаты ведаў на зубок!
Ён сыпаў іх і сыпаў без запінак,
Пакуль не наступіў абедзенны тут перапынак:
— А мамачкі!
І кінуўся ў сталоўку шэф.

Кіраўніку такому ўсё да лямпачкі...
І дэмагогія яго — бач, камуфляж і блеф.
Падлічвае ён скарупулёзна у другіх хвіліны,
Нібы гросбух,
А сам марнуе балбатнёй гадзіны,
Вышэй за ўсё яму — уласны свой каўбух...

## ПАЛЬЦЫ

Вялі гаворку Пальцы нейкім часам:
— Галоўны я! Ўся сіла, бач, ў мяне! —
Сказаў Вялікі палец басам.
— Ды не! —
Тут Указальны заспрачаўся,—
Я указую! Я ківаю...
А значыць, большую вагу я маю!
— Ну й дзівакі! —
Сярэдні палец не ўстрымаўся,—
Зірніце — самы я даўгі,
Размешчаны у цэнтры самым...
І значу я не менш таксама!
— Гі-гі! —
Заліўся смехам палец Безыменны,—
На мне, вунь, зіхаціць пярсцёнак заручальны,
Няўжо я горш за вас?
Тут рот свой Мезінец раскрыў,
каб пахваліцца,
Ды ў гэты час
Правоміла Рука: — Ды хопіць вам сварыцца,
Вы ўсе патрэбны мне. Так-так!
Вы ўсе працуеце, дальбог, выдатна.
А калі час наступіць ратны —
Я сцісну вас — і атрымаецца кулак,—
Што лезці супастату стане непанадна...

Калі ў сям'і пануе лад і згода —
Адужаць лёгка ўсе нягоды!

## «ТВОРЧАЯ» БАРАДА

Паэт Фантанаў захандрыў...
Дэпрэсія, апатыя яго скавалі,
Перад люстэркам ён сядзеў і сам з сабою піў,
А Музы над чалом яго віталі!..
«Чорт пабяры! — Ён грукнуў кулаком,—
Ці ж пораху няма ў парахаўніцы?
Як рыбіна аб лёд хвастом,
Я б'юся тыдзень над радком
І не магу за слова учапіцца...
Раней, бывала, толькі сеў за стол —
І рыфмы і метафары, і тэмы,
Лунала думка, як арол,
Як семкі, я лускаў і оды і паэмы!
А зараз вобраз свежы адшукаць — праблема...
Не!
Трэба мне
Ускалыхнуцца!
Туды,
Сюды
На «Волзе» пракаўзнуцца...»
І вось назаўтра, у чатырнаццаць нуль-нуль,
Як алімпійцы на Парнас прыходзяць на работу,
Фантанаў наш прынёс свае турботы:
— Шэф дарагі, ніхто не дакучае нам пакуль,
З табой дазволь парахавацца.
Патрапіў ■ ў цэйтнот...
За эпапею я хачу узяцца,
Дык трэба мне уражанняў набрацца —
Дай творчую камандзіроўку, ну на год?
— Ды што ты, браце? Апупеў?

Дзе грошы я вазьму табе такія? —
Шэф ускіпеў,—
Мо думаеш, тут б'юць крыніцы залатыя?
На месяц, вось, бяры. Дадзім.
Едзь. Набірайся творчага запалу.
І эпапею ты пішы памалу,
А там мы пачытаем. Паглядзім.
Як варта будзе — і прадоўжым...
...І вось адправіўся Фантанаў ў падарожжа!
Дзе вандраваў,
Дзе ён блукаў —
Нам невядома,
Але, відаць, дарэмна час ён не губляў
(Хоць не стварыў ні тома,
Ні паўтома) —
Прывёз такую бараду,
Што глянуць люба!
І зараз зноў ён шэфа чубіць,
Каб даў камандзіроўку
на Чукотку ці ў Караганду...

Што ж? Трэба паспрыяць тут барду —
Мо прывяжа вусы і бакенбарды?..

## РЭНЕГАТ

Магутны ледакол кірункам верным
Шлях пракладаў праз Ледавіты акіян...
Паміж таросаў, айсбергаў страшэнных
Ён вёў па курсу караван.
Як волат, крышачы цяжкіх ільдоў завалы,
Прымаючы удары першы на сябе,
Перамагаў і штормы ён і шквалы,
Стыхію лютую у жорсткай барацьбе.
І капітаны суднаў, што ў кільватары ішлі,
Упэўнены былі —
Іх флагман давядзе да яснай мэты!
Але адзін тут аказаўся рэнегатам,
прайдзісветам,
Пачаў ён сеяць смуту,
і крычаць: — Вядуць нас не туды!
Мы заблудзіліся ў палярным змроку!..
Раздавяць нас ільды!
І толькі я адзін
на небасхіле пуцяводную убачыў зорку!
Да гавані ўсіх давяду!
...І, экіпажу свайго судна на бяду,
Схапіў штурвал, крутнуў налева крута,
Даў самы поўны ход
І... пасадзіў на крыгу параход.
Вінты зламаны і рулі пагнуты,
Вада ўжо трумы залівае,
Патрэбна аб'явіць аўрал,
Падаць сігналы «SOS!»,
А гарлапан штурвал
Той з рук не выпускае,

Найшоў шалёны на яго псіхоз.
...Ды дзякуй, як гавораць, богу,
Што тут з суседніх караблёў
Своечасова падаспела дапамога
І без траскучых слоў
І параход і экіпаж уратавалі.

Пра што мы гутарку вядзём,—
Вы адгадалі,
Вядома, хто ўчыняе на ўвесь свет садом,
Хто выдае сябе прыхільнікам марксізма,
На справе ж—лье ваду на млын імперыялізму.
Расколвае рабочы рух,—
З'яўляецца адпетым рэнегатам.
Але... даскачацца той зух,
Ды будзе пазнавата...

## БАЙКАРОБ І ЦЭРБЕР

Рэдагаваць узяўся байку
Адзін паэзіі «мастак»:
Распатрашыў яе, як шмайку,
Ад галавы і да хваста;
Соль вымачыў, дабавіў мёду,
Мараль, як тапаром, адсек...
Зрабіў з сатыры едкай дыфірамб ці оду —
Ну, гвалт над аўтарам і здзек!..

Ад цэрбераў звышпільных, цвердалобых
Не гэтакае можна нам чакаць.
Яны гатовы крытыку ў трубу загнаць
І ў пекла кінуць байкароба...

# БАБРЫНАЯ ХРОНІКА

## (Байка-трылогія)

### Частка першая

Лагодна, мірна, ціха
Бабёр жыў са сваёй Бабрыхай...
Сумленна ён служыў,
Дамоў прыносіў поўную зарплату,
Не піў і не курыў,
Ні з кім рамана не круціў,
Пасля работы бег хутчэй дахаты.
— Ну й дамасед!
Ну і звярок няшчасны! —
Яму казалі спачувальна ўслед
То саслужывец, то сусед,—
Якісьці тыпус несучасны...
Сухар. Манах.
Вунь сакратарка, Ліска маладая,
Па ім аж сохне на вачах,
То млее, то ўздыхае...
А ён і вухам не вядзе, не заўважае!
І... да Бабра дайшло —
Ён даў такую з Ліскаю раскрутку,
Што папаўзлі неверагодныя ўжо чуткі,
Прыпісваць пачалі, чаго на яве не было:
— Распуснік! Алкаголік! Казнакрад!
— Пад суд яго! І пакараць сурова!
— Прыкідваўся святошай, гад,
А сам што вырабляў! Ах, хрыч бабровы...
Тут тэрмінова
Байкар славуты байку напісаў,

«Грамадскасць» зашумела! Загула!
— Ах, ну й Бабёр! Ах, шэльмачка Ліса!
Ну, карацей, Бабра з Бабрыхаю
«грамадскасць» развяла...

## Частка другая

Бабёр не рад разводу,
Бо шкода
Бабранят...
Ды не папрэш супроць «народу»,
Канечне, сам ён вінават...
Але калі б Бабрыха
Не слухала дарадчыкаў і адвакатаў,
Канфлікт уладзіўся б сам мірна, ціха,
І бабраняты
Не пазбавіліся б таты...
А так пайшло усё наперакос!
Бабрыха стала дамай папулярнай...
То «спачувае» ёй занадта Качканос,
То круціцца Барсук,
то зачасціў Янот не марна...
Жыве Бабрыха бы ў хмялю
І казырыцца!
Бо кожны кажа ёй: — Люблю!
І любяць... Ды не думаюць жаніцца...
— Ну і на ліха мне той шлюб?! —
Бабрыха разважае.—
З Бабра я аліменты маю,
Я вольная!
Каго хачу — таго й кахаю,
Той мне і люб!
І тут «грамадскасць» ёй дапамагае...

## Частка трэцяя

Ну а Бабёр?
Яму прыйшлося надта крута:
Яго з работы Леў прапёр,
Да Ліскі кінуўся — там атрымаў адпор,
Кругом ён стаў банкрутам...
Сышоўся з Выдраю, стаў працаваць,
Кватэру збудаваў, пачаў і абстаўляць.
Ды Выдра аказалася прайдохай, аферысткай—
Дом абабрала і накрылася хвастом...
І свайго носу не паказвае і блізка.
Бабёр жыве халасцяком.
П'е бражку і «чарніла»,
Дэбошы зрэдку учыняе...
Але яго «грамадскасць» выручае,
Выхоўвае што мае сілы,
Ды «вынікаў» пакуль няма...

## Эпілог-мараль

О божа мілы,
Я на грамадскасць цень не узвяду дарма.
А «дабрадзеі» ды пляткаркі
Вас часам давядуць да чаркі,
І нават да магілы...

## РАЗБІТАЕ ШЧАСЦЕ

Пасля вайны Якуб
У зямлянцы нейкі час туліўся.
Затым крыху разжыўся
І збудаваў сабе ён новы зруб.
Жаніўся.
А неўзабаве — нарадзілася дзіцё,
Затым другое.
Наладзілася чалавечае жыццё,
І шчасце пасялілася у хаце маладое.
І жонка і Якуб, абое,
Сіл не шкадуючы, старанна працавалі
І дзетак гадавалі.
«...Вось вырастуць... Вось скончаць інстытут...
Вось стануць Чалавекамі... Людзьмі на свеце...»
Ах, колькі у бацькоў было хвалюючых мінут!
Ах, колькі планаў, афішыраваных і ў сакрэце!
Ах, колькі радасці, затоеных надзей!
Сабе ў апошнім адмаўлялі,
А ўсё ахвяравалі на дзяцей.
— Ды што вы робіце?! — суседзі дакаралі,—
Навошта песціць так? Навошта калаціцца?
Навошта прыхвасцям усім іх патураць?
Як на святых, маліцца?
Каб потым не прыйшлося шкадаваць...
Ды будзе позна!
— Ах, што вы кажаце? Ціпун вам на язык! —
Матуля на прарокаў наступала грозна,—
А ведаеце вы, што я і мой мужык
У час ваеннай завірухі

І ў першыя гады пасля вайны
Пакаштавалі лебяды й макухі
І мелі на дваіх адны трафейныя штаны?
Дык пажыруюць хай цяперака сыны!
...Ну, і сыны, вядома, жыравалі:
З іголкі апраналіся, нібыта каралі,
У рэстаранах з «бабачкамі»
размалёванымі шыкавалі.
І ад вучобы адышлі,
І ад работы ўцякалі,
Як паразіты увесь час жылі...
Ды гэта кветкі,
А ягадкі — пазней.
Ў гарыл ператварыліся гросдзеткі,
Пакрыкваюць на маці ўсё гучней,
І бацьку сунуць ў бараду ці «пад мікіткі»...
Яны па боксу мелі нейкі там разрад,
«Агонь» вялі прыцэльны, не наўгад,
І «на радню» — без усялякай скідкі...
І, як належала чакаць,
Іх уцягнулі у афёры чорныя валютчыкі,
І трапілі у Магадан на тэрмін, субчыкі.
Што ж? Прыйдзецца кайлом ім памахаць...
Але не ім тут трэба спачуваць:
Інфаркт раптоўна бацьку спляжыў,
А маці плакаць ці смяяцца недарэчы пачала...

У заключэнне скажам:
Любоў сляпая — можа быць пачаткам зла.

# ДАЛЬНІ ПРЫЦЭЛ

Пал Палыч Капшукоў
Прыдбаў сабе бульдога.
— Ну й штуку ты ўпароў! —
Сказаў яму сусед Пятроў! —
Навошта ён табе? Не разумею я нічога...
Не паляўнічы ты, не следапыт,
І ні кала і ні двара не маеш...
На кніжцы грошы ўсе трымаеш.
А ў цуцыка твайго звярыны апетыт!
Лепш ты б купіў казу ці парсючка,
Дык меў бы ў хаце крынку малака
Або кавалак сала!
— Ты мелка плаваеш, Пятроў,—
Зарагатаў Пал Палыч Капшукоў,—
Фантазіі ў цябе, мой мілы, мала!
Ты мысліш немаштабна, дапатопна, куца...
А у мяне тут дальні ёсць прыцэл!
І гэны кірпаносы цуцык
Ў маёй кар'еры будзе мець рашаючы удзел!
Раскінь мазгамі, галава,
Бульдога я падрэсірую месяц-два —
Дык перад шэфам ён пачне хвастом віляць,
На задніх лапах піруэты вырабляць,
Лагодна усміхацца,
Ну, а галоўнае, у «лапу» хабары даваць...
А я пачну па лесвіцы угору падымацца!
Ну, раскумекаў ты мой план, Пятроў?

Даводзіцца здзіўляцца:
Якіх толькі няма на свеце лаўкачоў!

# ФАРАОН І МЕГЕРЫ

Зайчо, пакрыўджаны аднойчы Воўкам,
Мядзведзю «чалабітную» прынёс...
Ў прыёмную ледзь сунуў нос
І да парога аж прырос —
Яго уразіла шыкоўненькая абстаноўка:
Канапы, дываны, духоў п'янячы пах
І прыгажуні, што сядзелі па кутах!
Вавёрка за машынкай сумавала,
Такая пекная — не адарваць вачэй...
А побач Лісанька — яшчэ ямчэй
Якуюсьць кніжку тоўстую чытала.
А ў цэнтры — Козачка, ну, проста цуд!
Век на яе, здаецца б, любаваўся...
І даўгавухі моўчкі ля дзвярэй таптаўся.
Ды раптам тут
Да Зайкі Козачка падбегла жвава:
— Вы на прыём?
Якая у Вас справа?
Прыходзьце іншым нейкім днём,
Таптыгіна няма. Дакладней, ён заняты...
(Хаця Мядзведзь у кабінеце ў гэты час
сядзеў
І над красвордам з раніцы пацеў.)
— Ну што ж стаіце? Тупайце дахаты.
Здаецца, ясна Вам сказалі,—
Вавёрка і Ліса тут падтрымалі
Паплечніцу сваю,—
Бач, швэндаюцца розныя...
Б'юць толькі лынды...
...З нябёсаў Зайка апусціўся на зямлю,

Ад горкай крыўды —
Забыў, дзеля чаго прыйшоў сюды:
— Даруйце. Выбачайце. Я-я выйду...
І кінуўся з харомiны падалей ад бяды.

У другога бюракрата
Не крэсла — трон,
Не кабінет, а — царская палата,
І не прыёмная, а хараства салон!
На выгляд кожная мамзель, як перы,
А па характары — мегеры...
Ахоўваюць надзейна бюракрата дзверы.
І ён
Жыве, як фараон.

## СМЕХ І ЖУРБА

У Дом культуры, на канцэрт эстрады,
Сышліся сельскія працаўнікі —
Дзядзькі, кабеты, маладзіцы, юнакі,
Прыбраныя, як для парада.
Вось песня загула,
танцоры закружыліся, нібы ваўчкі,
Вось Смеху заіскрыліся каскады,
На жарты трапныя,
дасціпныя рэпрызы, каламбуры.
У залі узнікаў вясёлы рэагаж,
Апладысментаў віравала бура!
Адна Журба,
па непаразуменню трапіўшы сюды тыпаж,
Зялёная ад суму, ад нуды, ад злосці,
Крывілася і Смеху пагражала штосьці...
Ды на старую качаргу ніхто увагі не звяртаў,
Бо Смех усім настрой узняў!
І разыходзіліся хлебаробы весела па хатах
З канцэрта у гуморы добрым, як са свята!

Нядаўна прачытаў я фельетон...
Валіў пісака з хворай галавы ды на здаровую,
Ды аўтара і тактыку яго няновую
Адразу выдае плаксівы і мінорны тон.
Ізноў на Смех наскочыла Журба,
Але «арэшак» гэны ёй не па зубах!

## НАВУХАДАНОСАР

Навухаданосар — быў халдзейскі цар,
Жыў некалі да нашай эры...
Але на вуха наш даносар і пляткар
Жыве і сёння ва ўстанове і ў суседняе кватэры.
Вось байку і злажыў пра гэтых я пачвар.

Міхалка завітаў дадому пазнавата,
Ну, жонка і насела на яго:
— Прыйшоў нарэшце... Ах ты чорт чубаты!
Не беражэш здароўечка майго...
Сяджу. Нервуюся. Перажываю.
Гляджу ў акно.
Чакаю.
А ты? Не чалавек, а — бервяно!
Ах, бедная я сірацінка...
Тут голас задрыжаў,
закапалі з вачэй слязінкі...
— Галубанька, даруй! —
Міхал да сэрца прыгарнуў пяшчотна жонку,—
Але ты зразумей, сама вось памяркуй,
У нас такая завядзёнка:
Штодзень — то сход,
то семінар, палеміка, дэбаты...
Цікава, не цікава, а — сядзі!
Вось тут у тэрмін і прыйдзі
Дахаты...
— Дэбаты, кажаш? Лепей не мані,
А ну, мой любенькі, дыхні!
Ну так і ёсць! Ты піў віно!

А дзе віно — там і жанчыны...
— Ды божа барані!
Мы па грамульцы узялі адной,
Была на гэта важкая прычына —
Я прэмію сягоння атрымаў!
— Ах, прэмію?
Чаго ж адразу пра яе мне не сказаў?
...Ну, карацей, пайшло як след,
Закончылася спрэчка поўным мірам.
Але... сусед,
Як бачна, недарэмна вуха натапырыў.
Назаўтра ён камусьці нашаптаў,
Што ноччу Міхасёк скандаліў, дэбашырыў
І спаць нікому не даваў...
Ну, словам, накляпаў бязбожна.

О людцы добрыя!
Ці ж з гэтакай з'яваю мірыцца можна?

## ПУПЫР У ЗЕНІЦЕ

Пупыр узняўся у зеніт!
Плюе на ўсіх, дзярэ свой нос кірпаты...
— А чым ён знакаміт?
Таленавіты? Розуму ў яго палата?
Наадварот!
У гэтым і пытанне —
Дурны, як бот.
Але... на версе дзесьць, ля пульту кіравання,
Сядзіць ягоны брат...

А вы гаворыце, што пахаваны блат.

## ПУГАЧ І ПТУШКІ

На дубе, што над пушчай узвышаўся,
Пугач дупло аблюбаваў
І там прытулак свой абаснаваў.
Удзень драпежнік адсыпаўся,
А па начах
На птаства дробнае наводзіў жах,
Чыніў зладзейскія свае расправы...
І не было, здаецца, на яго управы,
Бо ён знянацку налятаў,
Калі ніхто яго нападу не чакаў.
То схопіць Вераб'я, то задзярэ ён Курапатку,
А то наскочыць на Грака.
Цярпелі Птушкі гэта ўсё, ды толькі да выпадку...
Аднойчы днём зляцеліся і сталі рахавацца:
— Нас многа, ён — адзін.
Чаго ж нам Пугача баяцца?
Яго мы на кавалкі разарвём,
Калі навалімся усёю грамадою!
І Птушкі на разбойніка пайшлі вайною,
Грай узнялі страшэнны, грозны,
Нібы над пушчай навальніца загула,
Аж захісталіся дубы, яліны, сосны!..
Пугач ад перапуду вылецеў з дупла,
Наўцёкі кінуўся што сілы,
Падалей ад бяды, ў гушчар...
Ды тут схапілі, бандзюка, за крылы —
І пух ягоны паляцеў на ўвесь абшар...

Не страшны аніякі чорт,
Калі сцяной узнімецца народ!

## КРАХ АМОСА

Ў Амоса спрыт, бач своеасаблівы,
Любую справу можа правярнуць,
Замяць, уладзіць ці раздзьмуць!
Увішны ён, лісліві,
Ну і не дзіва,
Што босу ён убіўся у давер...
Цяпер
Той без яго й дыхнуць не можа нават:
— Амос — сюды! Амос — туды!
Амоска гойсае рухава
І, скажам, без булды,
Ўладкоўвае ўсе справы...
Ад задавальнення ажно рукі паціраe бос:
— Незамянімы мой Амос!
А як жа? Босу і рабіць чаго не стала,
Заняты ён другім —
То едзе на Каўказ, то ў Крым,
Ці ж маляўнічых месцаў мала?
Амос, пераканаўшыся,
што бос яго — цяльпук,
Прыбраў уладу скора
Ён да уласных рук,
Стаў кіраваць усёй канторай!
Штодня ён стружку з служачых знімае
Без усялякае віны...
Ды што яны —
На боса ўжо ён, як на блазна, паглядае:
— Пустое места... Парахня...
Вось — Я!..
...Але Амоса ўрэшце раскусілі,

Далі яму пад зад...
І ўсё пайшло, як след, на лад!

Вось да чаго мы тут хілілі:
Начальнік, сцеражыся кар'ерыстаў і праныр,
Бо падвядуць пад манастыр...

## ВАВІЛА І ЗАКОН

Мясцовы галава Вавіла
Рабіў вячэрні мацыён
І старадаўнюю убачыў вежу ён.
Вавілу узарвала, абурыла:
— Чаму на фоне буйнаблочнага мікрараёна
Стаіць яна і краявід псуе?
Куды глядзяць работнічкі мае?!
А архітэктар? Сівая варона...
Ну й дам жа лайдакам разгону!
Назаўтра ўсіх сабраў у кабінет,
Загаварыў паважна, строга:
— Чорт ведае! Не робіце нічога!
Не адчуваеце,
як навакольны пераўтварыўся свет,
Век космаса настаў, хакея і ракет,
А ў вас пад носам, вунь,
стаіць каменная бандура,
Пазелянела, мохам абрасла,
Глядзіць на светлыя кварталы хмура,
А вам нікому думка не прыйшла,
Што век яна свой аджыла...
— Дык гэта ж помнік старажытнае культуры!—
Нарэшце архітэктар тут раскрыў свой рот,—
Яму, напэўна, год семсот...
Вы гэта зразумейце!
— Семсот? Ха-ха! А хто гады лічыў?
Мо гэта, скажаш, цуда восьмае на свеце?
Мяне ты, браце, рассмяшыў...
Ўзарваць яе, каб не было і следу!
Вось так. Ідзіце. Гэта мой загад.

...Ды архітэктар той законы ведаў —
Падаўся у вышэйшую інстанцыю ён на
даклад,
Там разабраліся талкова
І вежу старажытную нашчадкам зберaглі.
І больш таго, ўзялі
Яе пад пільную ахову.

Хоць у Вавілы многа сілы,
Але закон мацней Вавілы!

# ТУДЫ І РАК З КЛЯШНЁЙ

Намаляваў карціну Вол...
(Ён быў не геній, а мастак звычайны,
Ну, і пейзаж стварыў рэальны.)
Адлюстраваў, што бачыў навакол:
Лес, луг, раку,
Затоплены вадою човен гнілаваты,
На выгане — калгасны статак,
А у кутку —
Працуе трактар.
І дзесьці далей, ў гушчары —
Казёл блукае барадаты...
Ў салон, дзе выстаўлялі мастакі
карціны і плакаты,
Малюнак Вол прынёс на суд Журы.
І разгарнуліся дэбаты:
— Зэр гут! — сказаў Казёл.
— Ды, ліха пабяры,
Маштаб маёй хвігуры малаваты...
Ты б перанёс яе сюды вось, на пярэдні план —
Адразу б кампазіцыя зайграла!
— Бе-бе-зумоўна,—
забекаў усхвалёвана Баран,—
На першы погляд выдаецца ўсё удала.
Багатая палітра фарб. Змястоўна. Дасканала.
Але... але... Не можа быць, каб без заган...
Скажыце, Вол шаноўны,
Які тут сэнс асноўны?
І стыль які?
Класічны мо? Ці мадэрнісцкая імпрэсія?
Каб не было якой дыверсіі...

— І шчэ, здаецца мне, браткі,—
Авечка Барана суладна падтрымала,—
Занадта ўжо будзённы фон,
Стэрэатып, шаблон,
І выдумкі мастацкай мала...
Я гурт авечак ў цэнтры бы намалявала —
Вось гэта быў бы іншы каленкор!
Ніхто б не кінуў аўтару дакор...
— Прычым авечкі? —
Тут зарохкала паважная Свіння,—
Тут і Казёл, зазначу, недарэчы...
Паколькі ў кампазіцыі кумекаю, калегі, я,—
Галоўнай у карціне не хапае рэчы —
А, менавіта, даражэнькія, балота!
А ўсё астатняе — дэталі, драбяза...
— Дазвольце! — умяшалася Каза,—
Мне падабаецца. Арыгінальная работа.
Адна парада: човен замяніць лепш на маторку —
Гэта надасць сучасны каларыт,
І я прагаласую за «пяцёрку»!
Тут Конь узняў капыт:
— Прашу увагі! Ўсе гаварылі дэталёва
Пра кампазіцыю, палітру, тэму і сюжэт.
Вядома, не сакрэт,
Крытыкаваць лягчэй, чым напісаць талкова.
Не памылюся я — ёсць добрая аснова,
Ёсць некаторыя і недаробкі,
Але на існаванне мае права твор!
На гэтым і паставім кропку.
Ды тут ў атаку Рак папёр,
Махаючы ў паветры грозна
Раскрытаю кляшнёй:
— Таварышы! Ішло абмеркаванне несур'ёзна!
Не вызначаецца малюнак глыбінёй!
Па сутнасці, прад намі не карціна,

А — мазня!
Дзе ціна?
Пытаюся ў вас я...
І дзе падводнае, скажыце, царства?
Дык нечага нам думаць і гадаць...
Зняць!!!
І твор знялі, бо Рак
Хоць быў і не мастак,
Але ён прадстаўляў начальства.

У пастскрыптуме дадаць карціць:
На густы ўсе — не дагадзіць!

# ЗМЕСТ


Сталь і Шлак . . . . . . . 3
Аднагалосна . . . . . . . 4
Біты Певень . . . . . . . 5
Спрытная Каза . . . . . . . 7
Баран і Асліца . . . . . . . 9
Паток і Плаціна . . . . . . . 10
«Вогнетушыцель» . . . . . . . 11
НАП і Арап . . . . . . . 12
Падмацаванне . . . . . . . 15
«Вал» . . . . . . . 17
Галавешка і Даўбешка . . . . . . . 19
Джон Буль і дзядзька Сам . . . . . . . 21
Пражэрлівы Крук . . . . . . . 23
Зязюля і Курапатка . . . . . . . 25
Дабрадзей . . . . . . . 26
Верабей і Пентагон . . . . . . . 28
Велікасвецкія «бабы» . . . . . . . 30
Слон і Шакал . . . . . . . 32
На дыване . . . . . . . 34
Свіння ў гасцях . . . . . . . 37
Тхор . . . . . . . 39
«Герой» . . . . . . . 40
Сініца і Сарока . . . . . . . 42
Свінячыя ноты . . . . . . . 43
Масткір . . . . . . . 44
Галава і «Рука» . . . . . . . 46
Фанабэрыстая «цаца» . . . . . . . 48
Мімоза . . . . . . . 51
Анкета і г. д. . . . . . . . 53

Леў і Блыха . . . . . . 55
Графаман . . . . . . . 57
Далікатнае пытанне . . . . . . . 58
Аранжыроўшчык . . . . . . . 60
Гусак і Індычка . . . . . . . 62
Абрус і Сурвэтка . . . . . . . 64
Кароль і чорныя палкоўнікі . . . . . . . 66
«Генерал» у спадніцы . . . . . . . 69
Рэзананс . . . . . . . 71
Аперэты і рэвізорскія «кардэбалеты» 73
Ахвяра кахання . . . . . . . 75
Жаба, Трытон і Бусел . . . . . . . 77
Тэхніка і педант . . . . . . . 79
Пальцы . . . . . . . 81
«Творчая» барада . . . . . . . 82
Рэнегат . . . . . . . 84
Байкароб і цэрбер . . . . . . . 87
Бабрыная хроніка . . . . . . . 88
Разбітае шчасце . . . . . . . 91
Дальні прыцэл . . . . . . . 93
Фараон і мегеры . . . . . . . 95
Смех і Журба . . . . . . . 97
Навуходаносар . . . . . . . 98
Пупыр у зеніце . . . . . . . 101
Пугач і Птушкі . . . . . . . 102
Крах Амоса . . . . . . . 103
Вавіла і закон . . . . . . . 105
Туды і Рак з кляшнёй . . . . . . . 107

**Валасевіч Э.**

Туды і Рак з кляшнёй. Байкі. Мінск, «Беларусь», 1970.

112 с. 6500 экз. 40 к.

Байкі, гумарыстычныя вершы і фельетоны Эдуарда Валасевіча ўжо даўно набылі папулярнасць сярод шырокага круга чытачоў. У новай кнізе «Туды і Рак з кляшнёй» паэт пашырае надзённую тэму барацьбы з перажыткамі мінулага, з кар'ерыстамі, бюракратамі і падхалімамі, за перамогу станоўчага над адмоўным.

7-4-3 / 158-70 Бел2 В 15

На белорусском языке

Эдуард Станиславович Волосевич

ТУДА И РАК С КЛЕШНЕЙ

Издательство «Беларусь». Минск, Ленинский проспект, 79.
Рэдактар П. Прыходзька. Мастацкі рэдактар М. Шырокаў.
Тэхнічны рэдактар Г. Федарук. Карэктар Н. Лебедзева.

АТ 26313. Здадзена ў набор 22/IV 1970 г. Падп. да друку 22/X 1970 г. Тыраж 6500 экз. Фармат 70×100 1/32. Папера для глыб. друку. Ум. друк. арк. 4,55. Уч.-выд. арк. 3,57. Зак. 168. Цана 40 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. Мінск, Чырвоная, 23.